ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 339
Год выд. XXXVI

Верасень
1987 г.

## БЮРАКРАТЫЗМ І САЦЫЯЛІЗМ

Апошнім часам савецкія газэты не хаваюць ужо факту, што гарбачоўская «перабудова» мае цімала супраціўнікаў. Найбольш супраціўляецца бюракраты. Выяўляецца, што гэтая катэгорыя савецкага грамадзтва ня гэткая й малая, як гэта прызнала, прыкладам, газэта «Зьвязда» (6.VIII.87). Гэткім парадкам, мы бачым, што бюракратызм савецкае сыстэмы стаўся асноўным тормазам «перабудовы».

эксплятататарскіх дзяржавах, якая характарызуецца поўнай адарванасьцю ад жыцьця, дэспатычнымі мэтадамі кіраваньня, далёкімі ад інтарэсаў народу, і ажыцьцяўляецца сыстэма бюракратызму прывілеяванай кастай чыноўнікаў» (БелСЭ).

Цікава ведаць: што будзе напісана пра бюракратызм у новым выданьні БелСЭ, якое рыхтуецца цяпер да друку? Бо хоць у Савецкім Саюзе, калі




*Карыкатура гэтая ўзятая з часапісу «Вожык» (№11, чэрвень1987). Нарысаваў яе мастак М. Гіргель. Аўтар прадставіў аднак сытуацыю тэндэнцыйна, напісаўшы на трох ручках, што кланяюцца бюракрату: «партком», «прафком» і «камітэт камсамолу». Але гэта — замыльваньне вачэй, бо савецкі бюракрат у існасьці неразрыўна зьвязаны з парткомамі, прафкомамі ды камітэтамі камсамолу, якія й кіруюць усімі справамі ў савецкай сыстэме. Хто запраўды мусіць кланяцца бюракрату і чакаць на ягоную ласку, дык гэта — беларуская мова, адукацыя й нацыянальная культура. Мы дадалі да іх яшчэ цэнзуру, якая й дасюль трымае пад забаронай вестку аб пісаных да Гарбачова лістох у абароне беларускае мовы й культуры.*

Але вось вучоныя мужы савецкае навукі, прасякнутае партыйным духам, нам цьвердзяць, што «ў СССР і іншых сацыялістычных краінах зьнішчаныя сацыяльна-эканамічныя карані й палітычныя прычыны бюракратызму», што «бюракратызм — сыстэма кіраваньня і вядзеньня справаў у

верыць першай вэрсіі БелСЭ, «сацыяльна-эканамічныя карані» бюракратызму зьнішчаныя, бюракрат і ня думаў зьнікаць. Сёньня нават можна ставіць пытаньне: калі было бюракратаў больш — у 1917 годзе ці напрыканцы сёмага дзесятку гадоў савецкае ўлады?

(Заканчэньне на 2-й б.)

***Бюракратызму няма!***

БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ (т. 2, 1970, б.505): «У СССР... зьнішчаныя сацыяльна-эканамічныя прычыны бюракратызму і створаныя сапраўдныя народныя органы дзяржаўнага кіраваньня».

***Ёсьць бюракратызм!***

«ЗЬВЯЗДА» (19.VIII.87): Сёньня, у пераломны момант жыцьця савецкага грамадзтва, — у пэрыяд перабудовы, — праблема барацьбы зь бюракратызмам — з гэтым, як яго называў У. І Ленін, 'самым горшым унутраным ворагам', застаецца надзвычай войстрай. Як выкараніць бюракратызм?»

## XXII-ГІ КАНГРЭС БАЗА

22-гі кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня адбыўся ў Гайленд-Парку, штат Нью-Джэрзы, у канцатыдні Дня Працы 5-6 верасьня 1987 году.



*На беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку. У цэнтры: Архіепіскап Мікалай, а. Карп Стар, др. Я. Сажыч (справа), маёр С. Гутырчык (зьлева ля Арх. Мікалая).*

*Фота Алега Дубягі.*

**Ушанаваньне памяці Алеся Гаруна**

У сыботу 5-га верасьня а 10-й гадз. ўраньні, стараньнем Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, на беларускіх могілках у Іст-Брансьвіку пры помніку гэрояў адбылася ўрачыстасьць у гонар 100-х угодкаў ад нараджэньня Алеся Гаруна, выдатнага беларускага пісьменьніка, грамадзка-



*Перад царквою на багаслужбе. Фота А. Дубягі.*

палітычнага й вайсковага дзеяча.

Мітрафорны Пратаярэй а. Карп Стар, настаяцель мясцовага прыходу БАПЦ, адслужыў паніхіду за Алеся Гаруна й жаўнераў, што загінулі ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі. У часе паніхіды вэтэраны пад камандай маёра С. Гутырчыка трымалі сьцяжную варту. Пасьля паніхіды сп. Міхась Тулейка прачытаў рэфэрат пра Алеся Гаруна. Урачыстасьць закончылася супольным адсьпяваньнем гэрояў» ды беларускага нацыянальнага гімну.

На ўрачыстасьці на могілках былі: Архіепіскап Мікалай, Першагіерарх БАПЦ, др. Язэп Сажыч, Старшыня жалобнага маршу «Сьпі пад курганам Рады БНР, дэлегаты кангрэсу БАЗА, госьці з Канады.

Хорам кіраваў у часе паніхіды сп. Якуб Сапежынскі.

**Нарады 22-га кангрэсу БАЗА**

Нарады кангрэсу адбываліся ў рэлігійна-грамадзкім цэнтры пры царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку. Праца пачалася а 2-й гадз. папаўдні. Сп. А. Шукелайць, старшыня галоўнай управы БАЗА, адчыніў кангрэс і прывітаў прысутных Ўладыку Мікалая, др. Язэпа Сажыча, сп. М. Ганька, старшыню таронцкага аддзелу Згуртаваньня Беларусаў Канады, гасьцей з Канады, старшыняў беларускіх арганізацыяў і дэлегатаў кангрэсу. Айцец Карп сказаў малітву, а Ўладыка Мікалай блаславіў удзель-

(Працяг на 2-й б.)

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# БЮРАКРАТЫЗМ І САЦЫЯЛІЗМ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

Калі-б падобнае сацыялягічнае вымярэньне было праведзенае, дык ягоныя вынікі, думаецца, ускалыхнулі-б на тым сьвеце клясыкаў марксызму-ленінізму.

«Я-б воўкам выгрыз бюракратызм», пісаў калісьці паэт Маякоўскі. Ад пары Маякоўскага і аж да нядаўнага часу савецкія паэты пра бюракратызм ня пісалі ў сваіх вершах. У жыцьці то бюракратызму хапала па вушы, але вось у літаратуры, для нашчадкаў, услаўлялі «народную» (а ад часоў Брэжнева «ўсенародную») уладу.

З прыходам гарбачоўскай галоснасьці «бюракратызм», «бюракраты», як і шмат чаго іншага, зьявіліся ў савецкіх публікацыях. Бюракраты змагаюцца за сваю ўладу, супрацівяцца перабудове, намагаюцца жыць па-ранейшаму, ня любяць «галоснасьці» і да таго падобнае — вось пра што сёньня пішуць савецкія газэты й часапісы. Больш таго, даецца ўжо разгорнуты партрэт савецкага бюракрата.

Гэты вялікай шкоды перабудове ня спрычыніць, хоць і затармозіць працэс. Страшны бюракрат партыйнае эліты, які трымае ў сваіх руках уладу і ня хоча траціць яе. Бюракрат высокага рангу сьлізкі, ён прыстасоўваецца, засвойвае лексыку перабудовы, спрабуе выдаць сябе за лякаматыў прагрэсу. Але гэта толькі маска. На самой-жа рэчы яму прагрэс не патрэбен, перабудовы ён ня хоча, галоснасьць ён ненавідзіць. Усё, у чым ён зацікаўлены — гэта ў захаваньні свайго цёплага месьцейка, сваіх прывілеяў, свае палітычнае ўлады. Дык вось ён і карыстаецца гэтай уладай. Ён паранейшаму камандуе гаспадаркай, загадвае ўстановамі, канторамі, канцылярыямі, займаецца папэратворчасьцяй. Розьніца, праўда, ёсьць паміж тым, што было, і тым, што наплыло: калі раней пра бюракрата маўчалі ў друку, дык сёньня яго называюць ягоным запраўдным імём, зь яго рысуюць карыкатуры. І гэта сьветчыць, думаецца,

> «Ня зжыты бюракратызм, які тармозіць перабудову. Ствараючы бачнасьць бурнай дзейнасьці, многія штатныя прамоўцы толькі губяць балбатнёй добрыя пачынаньні. У патоках папераў губіцца жывая справа, тонуць набалелыя пытаньні». — *З дакладу Старшыні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР Г. С. Таразевіча шостай сэіі ВС БССР. «Зьвязда», 31.V.1987).*

Газэта «Зьвязда» ў нумары ад 6-га жніўня сёлета азагаловіла свой артыкул гэтак: «Прыгавор бюракрату». Хто яго вынес? Круглы стол газэты «Зьвязда», у якім узялі ўдзел драматург Алесь Петрашкевіч, намесьнік пракурора Менскай вобласьці Скарулiс, старшыня калгасу Стаўбцоўскага раёну Юнцэвіч ды рабочы менскага заводу Данільчык. Удзельнікі «круглага стала» далі нават агульны партрэт бюракрата рэспублікі. У вагульных рысах ён выглядае гэтак: бюракрат, ён-жа савецкі чалавек, дбае толькі пра сябе, пра сваю выгоду, заўсёды супраць прагрэсу, тармозіць ініцыятыву; як правіла, чалавек ён некампэтэнтны, неадпаведны для свае пасады; у экстрэмальных сытуацыях бюракрат ратуе толькі сваю скуру; у бальшыні выпадкаў, аднак, бюракрат асоба сымпатычная і не злачынная, дзеля чаго ў савецкім заканадаўстве ня было й закону аб барацьбе зь бюракратамі. Гэткім вось бачыцца савецкі бюракрат удзельнікам «круглага стала» газэты «Зьвязда». Цяжка не пагадзіцца з гэтым.

Але як і самым удзельнікам «круглага стала», гэтак і газэце «Зьвязда» не хапіла аднаго прынцыповага дадатку да гэтага вобразу бюракрата. А трэба было дадаць, што карані бюракратызму ў савецкай сыстэме аніяк ня зьнішчаліся, а бадай, наадварот — бюракратызм атрымаў новую форму існаваньня — сацыялістычную.

Запраўды, сёньня бюракрат становіць галоўную перашкоду дэмакратызацыі, перабудове, палепшаньню жыцьця. Але бюракрат не нізавы. Гэпершым чынам аб тым, што Гарбачоў і ягоныя прыхільнікі пачынаюць браць верх над застойнымі сіламі ў савецкім грамадзтве. Хоць змаганьне, як выглядае, будзе яшчэ даўгое, нялёгкае.

**Алесь Васілеўскі**

### «ТАЙМС» ПРА ЛІСТ 134-Х

Лёнданская газэта «Таймс» (28.VIII.87) у сваім выпуску, прысьвечаным пытаньням вышэйшай асьветы, падала пра адкрыты ліст 134-х прадстаўнікоў грамадзтва савецкай Беларусі да М. Гарбачова (тэкст ліста гл. у «Б-се» № 338). У паведамленьні кажацца, што гэта ўжо другі ліст абаронцаў беларускае мовы й нацыянальнае культуры да савецкага лідэра. Першы ліст 28-х аўтараў быў пасланы Гарбачову ў сярэдзіне сьнежаня летась. Ліст 134-х напісаны ў чэрвені сёлета. «Таймс» даволі дэталёва пераказаў зьмест ліста 134-х.

Газэты савецкай Беларусі дасюль яшчэ нічога не падалі ані пра першы ліст абаронцаў беларускае мовы, ані пра другі.

### МЕНСК: СЬМЯЛЕЙ КАРЫСТАЮЦЦА МОВАЙ

Заходнія наведвальнікі, якім даводзілася бываць раней у сталіцы савецкае Беларусі, пабыўшы там сёлета, вяртаюцца з уражаньнем, што мянчане на вуліцах свайго гораду сьмялей карыстацца беларускай мовай. Гэта, відавочна, вынік гарбачоўскае галоснасьці ды напорных апошнім часам калектыўных, афіцыйных і неафіцыйных, актаў абароны беларускім грамадзтвам свае роднае мовы.

# ХХІІ-ГІ КАНГРЭС БАЗА

*(Працяг зь 1-й б.)*

нікаў кангрэсу. Хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць памерлых за апошнія два гады сяброў БАЗА: Міколы Кунцэвіча, Алекса Грушы, Янкі Ніхаёнка, Язэпа Гуткоўскага (Плашчынскага), Аўгена Вярбіцкага, Андрэя Каптуровіча, Аўгена Каханоўскага, Сьцяпана Кісяля, Аляксандра Кайка, Янкі Сокала, Вольгі Сільвановіч і Аляксандра Корбута.




*За прэзыдыяльным сталом у часе банкету: др. Я. Сажыч (трэці зьлева); направа ад яго: Уладыка Мікалай, а. Карп, сп. М. Ганько; налева: мгр. В. Плескач, др. Я. Запруднік.*
*Фота А. Дубягі.*

Пасьля таго як мандатная камісія (сп.сп. В. Кажан і Я. Ханенка) зрабіла справаздачу ды сьцьвердзіла статутовую правамоцнасьць кангрэсу, быў абраны прэзыдыюм у складзе сп.сп. Васіля Плескача (старшыня), Кастуся Калошы й сп-ні Алы Орса-Рамана (сакратары). Быў прыняты парадак дня, выбраная рэзалюцыйная камісія (Я. Запруднік, В. Станкевіч і Ю. Азарка), прачытаныя прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў, прыняты пратакол з папярэдняга кангрэсу.

У справаздачы зь дзейнасьці галоўнай управы БАЗА старшыня А. Шукелайць гаварыў аб грамадзка-арганізацыйнай працы ўправы і ейных паасобных сяброў, дакладна разгледзеў працу ўправы ў галіне грамадзка-палітычнай, культурнай, дапамаговай, міжнародна-гуманітарнай (абарона вязьняў сумленьня). Дакладчык зьвярнуў увагу на ўдзел моладзі ў працы БАЗА пры арганізаваньні розных імпрэзаў ды на супрацоўніцтва БАЗА зь іншымі этнічнымі групамі ў ЗША. Сп. Шукелайць прачытаў такксама справаздачы, арганізацыйную й фінансавую, газэты «Беларус».

На дапаўненьне справаздачы старшыні БАЗА ягоны заступнік сп. Вячаслаў Станкевіч гаварыў аб працы з моладзяй шляхам ладжаньня вечароў зь лекцыямі на розныя беларусаведныя тэмы, а сп. Васіль Русак прачытаў справаздачу зь фінансавага стану БАЗА.

Пра дзейнасьць адзелаў БАЗА гаварылі іхныя старшыні.

Справаздачу рэвізійнае камісіі прачытаў ейны старшыня сп. Кастусь Калоша.

Старшыня кангрэсу сп. В. Плескач запрапанаваў прызнаць уступаючай управе абсалютарыюм з падзякай, што й было зроблена аклямацыяй.

Галоўная ўправа БАЗА была перавыбраная ў папярэднім складзе: А. Шукелайць — стыршыня, Вячаслаў Станкевіч — заст. старш., Францішак Бартуль — заст. старш., Вера Запруднік — сакратар, Васіль Русак — скарбнік, Янка Запруднік — прэсавы рэфэрэнт, Раіса Станкевіч — вонкавыя дачыненьні, Ала Орса-Рамана — культурны рэфэрэнт, Уладзімер Бакуновіч і Аляксандар Міцкевіч — сябры ўправы, Юрка Азарка — каардынатар з моладзяй.

У новую рэвізійную камісію ўвайшлі: сп.сп. Міхась Тулейка — старшыня, Лявон Шурак і Міхась Караneўскі — сябры.

Абмеркаваўшы плян далейшае дзейнасьці, кангрэс закончыў сваю працу адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

На другі дзень зьезду, у нядзелю, адбылася архірэйская багаслужба, у часе якое Уладыка Мікалай сказаў пропаведзь аб хрысьціянскім абавязку рабіць дабро, ды былі адслужаны малебен за здароўе юбіляра др. Язэпа Сажыча й ягонае сям'і.

### Банкет ушаноўвае др. Я. Сажыча

Папаўдні ў залю рэлігійна-грамадзкага цэнтру на банкет з нагоды 70-годзьдзя др. Я. Сажыча, апрача ўдзельнікаў кангрэсу БАЗА, прыбыло шмат гасьцей. Удзельнікаў банкету вітаў старшыня БАЗА сп. А. Шукелайць, які папрасіў др. Я. Запрудніка прачытаць рэфэрат на тэму «Гарбачоўская 'галоснасьць' і беларускі нацыяльны дух» (тэкст рэфэрату будзе зьмешчаны ў наступным нумары «Беларуса»). Даклад быў прыняты бурнымі воплескамі. Зь ініцыятывы сп. Браніслава Даніловіча адбыўся збор ахвяраў на выдавецтва «Беларус» (было сабрана больш за 1200 даляраў; гл. грашовую справаздачу ў гэтым нумары).

Падзякай за супрацоўніцтва й заклікам да далейшай працы сп. А. Шукелайць абвесьціў 22-гі кангрэс БАЗА закончаным і папрасіў др. Барыса Рагулю, заступніка Старшыні Рады БНР, весьці банкет далей на ўшанаваньне юбіляра дня — др. Язэпа Сажыча.

Др. Рагуля ў кароткіх словах прывітаў свайго даўнага сябру, прадставіў ягоную сям'ю. Сп. В. Плескач, школьны калега др. Сажыча, яшчэ з часоў Беларускае навагрудзкае гімназіі, прачытаў абшырны рэфэрат пра жыцьцё й дзейнасьць юбіляра. З пры-

# УГОДКІ ЗМОВЫ СТАЛІНА ЗЬ ГІТЛЕРАМ
## (МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ЧОРНАЕ ІСТУЖКІ)

**ТАРОНТА**

48-я ўгодкі пакту Рыбэнтропа-Молатава былі адзначаныя тут у нядзелю 23-га жніўня двутысячнай дэманстрацыяй ля гарадзкой ратушы. У дэманстрацыі бралі ўдзел прадстаўнікі паняволеных Савецкім Саюзам ды камуністычным Кітаем народаў, а таксама народаў Цэнтральнай Амэрыкі. Дэманстрацыя была пратэстам супраць пагвалчаньня правоў чалавека ў Савецкім Саюзе; ушаноўвала памяць тысячаў загубленых у савецкіх турмах і ссылках ахвяраў; была дамаганьнем вызваленьня вязьняў сумленьня; заклікала Гарбачова зьняць зялезную заслону, адчыніць граніцы.

Дэманстрацыя, якой кіраваў Чэх сп. Джон Гашэк, пачалася канадзкім гімнам «О, Канада!». Перад ратушай адбыўся парад нацыянальных сьцягоў — сьпярша балтыцкіх народаў, а за імі іншых. Між гэтых апошніх узьвіваўся й беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Несла яго пара маладых Беларусаў у нацыянальнай вопратцы. За сьцягам ішоў плякат з напісам паангельску «Свабоду Беларусі».

Нацыянальныя сьцягі былі разьмешчаныя вакол сцэны, на якой занялі месца прадстаўнікі: фэдэральнага й правінцыяльнага ўрадаў Канады, управы Таронта, сьвятары, старшыні канадзкіх ды этнічных арганізацыяў і група афганскіх паўстанцаў. Беларусаў рэпрэзэнтаваў Архіепіскап Мікалай, Першагіерарх БАПЦ, і старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады др. Раіса Жук-Грышкевіч.

Міністар фінансаў Канады Майкэл Вільсан закончыў сваю прамову прачытаньнем прывітальнага ліста ад прэм'ера Канады Браена Малроні. Правінцыяльны міністар Тоні Рупрэхт ад імя прэм'ера Антарыё Дэвіда Пітэрсана абвесьціў дзень 23-га жніўня Днём Чорнае Істужкі. Сярод шматлічных прамоўцаў быў паўстанец з Афганістану й сьвятар зь Нікарагвы. Дэманстрацыя закончылася гімнам «Божа беражы Каралеву!».

Тысяча чорных балёнаў, што цёмнай хмарай узьняліся ў неба, сымбалізавалі тысячы ахвяраў камунізму. Глядзячы на іх, я думала пра замучанага ў турме ў Воршы майго 25-гадовага брата, пра ахвяру яжоўскае чысткі ў 1937 г. майго хроснага Бацьку, пра тысячы замучаных беларускіх «нацдэмаў»... А нам, жывым на волі, да апошняга дыханьня трэба рабіць усё магчымае на карысьць нашай вызвольнай беларускай справы...

**Беларуска**




*Нацыянальныя сьцягі, сярод іх і беларускі, у часе маніфэстацыі перад будынкам парлямэнту ў Атаве. Фота Янкі Сурвілы.*

**АТАВА**

У канадзкай сталіцы этнічныя групы з краёў Цэнтральнае і Ўсходняе Эўропы, як і летась, адзначылі сёлета 23-га жніўня міжнародны дзень «Чорнай Істужкі» — угодкі пакту Рыбэнтропа-Молатава. Перад будынкам парлямэнту адбылася маніфэстацыя, на якой выступілі прамоўцы ды былі прачытаныя пасланьні салідарнасьці ад лідэраў Лібэральнай і Новай Дэмакратычнай партыяў, а таксама ад старшыні гораду Атавы, які абвесьціў дзень 23-га жніўня Днём Чорнай Істужкі.

Пасьля адбыўся паход па вуліцах сталіцы да савецкага пасольства, дзе дэманстрацыя працягвалася яшчэ гадзіну часу. Сярод дэманстрантаў былі таксама й Афганцы.

Беларускі сьцяг несьлі прадстаўнікі нашае моладзі ў беларускіх нацыянальных строях.

Атаўская прэса зьмясціла рэпартажы пра маніфэстацыю, называючы рэпрэзэнтаваныя ўдзельнікамі дэманстрацыі краіны, якія сталіся ахвярамі ганебнага пакту Рыбэнтропа-Молатава. Францускамоўная газэта «Ле Друа» зьмясціла нават на першай бачыне вялікую каляровую здымку з дэманстрацыі.

**Язэп Вішневіч**

# КАНГРЭС БАЗА

*(Заканчэньне з 2-й б.)*

вітальнымі прамовамі выступалі: Уладыка Мікалай, др. Ул. Набагез, сп.сп. К. Мерляк, М. Ганько, К. Калоша, Ф. Бартуль, А. Стрэчань, П. Кажура, а сп. А. Шукелайць, прывітаўшы юбіляра ад БАЗА, прачытаў прысланыя яму шматлічныя прывітаньні ад сэктараў рады БНР, беларускіх арганізацыяў ды прыватных асобаў.

У часе банкету з прывітаньнямі й цікавай прамовай аб патрэбе фонду дапамогі беларускім імігрантам выступіў малады беларускі дзеяч з Канады сп. Алесь Шаршуновіч. На ягоны заклік было сабрана каля паўтысячы даляраў у фонд дапамогі.

Афіцыйная частка банкету закончылася малітвай і адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

Пасьля да позна вечару пры каве й юбілейным торце ўдзельнікі працягвалі свае сяброўскія гутаркі.

У часе кангрэсу БАЗА працаваў, традыцыйны ўжо пры гэткіх нагодах, кніжны стэнд зь беларускімі выданьнямі як замежнымі, гэтак і з Бацькаўшчыны. Стэнды гэткія арганізуе Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, дзякуючы ягонаму ініцыятыўнаму старшыні др. Вітаўту Кіпелю.

За ўдалую арганізацыю кангрэсу БАЗА, асабліва банкету, належыцца вялікая падзяка ньюджэрзыйскаму аддзелу БАЗА, перш-наперш ягонаму старшыні сп. Пётру Кажуру ды сябром управы аддзелу: сп. Міхасю Тулейку, сп-тву Галіне й Васілю Русаком, а таксама сп-ням Тамары Януш, Галіне Каранеўскай, Літвіне Гутырчык, Ніне Сільвановіч ды сп-тву Галіне і Ўладзімеру Хараўцом.

# ФЭСТЫВАЛЬ У ПАРКУ СВАБОДЫ

У парку Свабоды ў горадзе Джэрзы-Сыты, Н. Дж., адбыўся 12 і 13 верасьня чародны 9-ты гадавы фэстываль народнага мастацтва нацыянальнасьцяў штату Нью-Джэрзы. Нацыянальныя фэстывалі, якія ладзіць штатная Этнічная Рада, прыцягваюць тысячы наведвальнікаў, у тым ліку шмат фэдэральных ды мясцовых урадаўцаў і госьцяў. Беларуская група была аднэй зь першых, якія арганізавалі гэтыя фэстывалі. Беларускія стэнды на фэстывалях карыстаюцца нязьменнай папулярнасьцяй: наведвальнікі цікавяцца, ці ёсьць новыя кружэлкі Данчыка; шырака ведамыя ў штаце беларуская папрадуха Надзя (сп-ня Н. Кудасава) ды майстрыха тканьня паясоў Тамара (сп-ня Т. Кольба). Заўсёды прыцягваюць да сябе ўвагу публікі й фатографаў.

Як і папярэднімі гадамі, сёлета вялізарныя беларускія стэнды вызначаліся багацьцем народных вырабаў, дэманстраваньнем умельства тканьня, прадзеньня, вышываньня, багатым асартымэнтам сувэніраў ды патрэбнай інфармацыйнай літаратурай пра Беларусь.




*З сэнатарам Фрэнкам Ляўтэнбэргам (зьлева направа): Надзя Кудасава, Лёва Стагановіч, Зора Кіпель і Галіна Русак. Фота Г. Патэля*

Прыемнай неспадзеўкай для беларускае групы было спатканьне на фэстывалі з сэнатарам Фрэнкам Ляўтэнбэргам, які толькі што вярнуўся з Савецкага Саюзу.

Фэстывалі ў парку Свабоды адбываюцца каля самой Статуі Свабоды, у месцы прычалу тысячаў а тысячаў нашых землякоў на пачатку гэтага стагодзьдзя. Удзел у фэстывалях вымагае вельмі шмат працы й клопатаў, але ўдзел дае выдатную нагоду прапагандаваць нашае імя, дапамагае культываваньню й адраджаньню беларускае спадчыны ў Злучаных Штатах Амэрыкі.

Асаблівa прыемна бывае беларускім удзельнікам назіраць, як у найбольш урачыстай частцы фэстывалю — парадзе нацыянальных сьцягоў — бяруць удзел розныя пакаленьні Беларусаў: старэйшыя, што прыехалі ў ЗША ўжо ў сталым веку, маладзейшыя ды іхныя дзеці, народжаныя ў Амэрыцы. З гэтых маладзейшых Амэрыканцаў сёлета ў парадзе сьцягоў, пад амэрыканскім і бел-чырвона-белым штандарамі, ішлі ўнучкі сп-тва Васіля й Галіны Русакоў — Гранты-Русакі ды дачушка сп-тва Мікалая й Ірэны Рагалевіч-Дутко — Каця.

За падрыхтоўку ды ўдзел у сёлетнім фэстывалі належыцца падзяка сп-ні Надзі Кудасавай, сп-твам Рагалевіч-Дутком, Русаком, Кольбам, Кіпелям, Цярпіцкім, Кажурам, сп-ням А. Шульжыцкай, Н. Зьгірскай ды сп. Лёву Стагановічу.

**В. Зубкоўскі**

### ПАДЗЯКА

Гэтым шляхам выказваю шчырую падзяку ўсім сэктарам Рады БНР, пасобным Сябром Радным і асабістым прыяцелям, што прыслалі шматлічныя пісьмовыя прывітаньні й добрыя пажаданьні з нагоды майго 70-годзьдзя. Асаблівую падзяку выказваю арганізатарам і ўсім удзельнікам урачыстасьці, што адбылася 6 верасьня сёлета ў Гайленд-Парку ў штаце Нью-Джэрзы ў часе 22-га кангрэсу БАЗА.

**Язэп Сажыч**
**Старшыня Рады БНР**

# «БЕЛАРУСЬ ЁСЬЦЬ КАМУ БАРАНІЦЬ»!

**Ліст у Рэдакцыю**

Добры дзень вам, сябры!

Як добра, што я маю гэтую магчымасьць пісаць вам. Ужо тры тыдні як я, мая жонка Тамара і сынок Давыд выехалі з Савецкага Саюзу на сталае жыцьцё ў Вялікабрытанію. У горадзе Бірмінгэме жыве дзядзька мае жонкі, тут мы пакуль і знаходзімся. Мы яшчэ



*Сп. Пятро Грыгальчык з жонкай Тамарай Баяроўскай і сынам Давыдам (1984 г.).*

ня надта ў старым веку: мне 31 год, а жонцы 36. Сыну нашаму чатыры гады.

У СССР мы жылі недалёка ад Вільні. Я сам з Маладэчна, дзе й цяпер жывуць мае бацькі, браты ды сёстры. Жонка мая з Навагрудка. Па нацыянальнасьці мы Беларусы. Належым да царквы Пяцідзясятнікаў. Да веры ў Бога мы прыйшлі ўжо сталымі. Да палітыкі мы таксама ня ставімся абыякава. Мы за сапраўдную дэмакратыю як у Савецкім Саюзе, гэтак і ўва ўсім сьвеце. Уважаем за лепшае, каб наша Беларусь была вольная, але пакуль што гэта немагчыма. Хоць ніякага грэху няма жадаць волі, але гэта ня зусім па сэрцы было й ёсьць кіраўнікам савецкае дзяржавы.

Мы, жыўшы ў СССР, ня былі актыўнымі змагарамі за паважаньне правоў Беларусі, як рэспублікі. Але мовы нашых бацькоў, дзядоў трымаліся як маглі. Гэта было вельмі цяжка, і цяпер не палягчэла. Бо пераважная частка Беларусаў адыйшла або адыходзіць ад беларускай мовы. Чаго граха таіць, мы таксама не заўсёды, ня кожны дзень, ня кожны час размаўлялі чыстай роднай мовай. Ужывалі больш зьмешаную беларускую мову з расейскімі словамі. Але заўсёды памяталі, што мы Беларусы.

І колькі яшчэ было ды ёсьць такіх паміраючых Беларусаў. Яны лічаць сябе Беларусамі, а беларускаю моваю не карыстаюцца або карыстаюцца толькі зьмешанай гаворкай. Гэта вялікае гора.

Што да гора, то яно пачалося даўно. Мой татка, Грыгальчык Антон Пятровіч, просты селянін, быў вывезены ў Сібір і прабыў там ад 1939 г. ажно па 1953 год. Усё ягонае юнацтва прайшло ў вельмі цяжкіх умовах. Я таксама нацярпеўся шмат. Нада мной зьдзекаваліся за маю веру ў Бога (я ня мог працаўладкавацца, быў прызнаны ў шпіталі хворым на нэрвы), гэта, па-мойму, таксама не абы-што.

У 26 гадоў я ажаніўся ды перабраўся на жыцьцё з Маладэчна ў Вільню. На гэты пэрыяд майго жыцьця прыпала пакуль што самае цяжкое выпрабаваньне. За рэлігійныя перакананьні была асуджаная мая жонка. Гэта здарылася ў канцы травеня 1983 году.

Наша рэлігійная дзейнасьць ня была вар'яцтвам. Я й мая жонка толькі хацелі аддаваць Богу тое, што належыць Яму, а цару, што належыць яму. А ўлады не хацелі рэгістраваць нашу царкву за такія перакананьні. Нас штрафавалі, у маёй кватэры двойчы праводзілі вобшукі, гэта ўжо здарылася, як мы жылі ў Вільні. Ну, і ў канцы канцоў быў суд. Мая жонка атрымала тры гады лягероў агульнага рэжыму, як-бы за хлусьню на савецкі парадак, за тое, што яна пісала заявы, дзе крыўдзілася на цяжкія ўмовы жыцьця, і асабліва хрысьціянскага жыцьця. Уладам надта не падабалася, што мы жадалі выехаць на Захад. І ўрэшце так вось атрымалася: савецкі суд выявіў «гуманнасьць», улічваючы тое, што мая жонка хутка павінна была радзіць, ёй лягер замянілі ссылкай, якую мы разам адбылі ў Літве, колькі дзясяткаў кілямэтраў ад Вільні.

У 1985 годзе жонка мая сталася вольнай. Але стаўленьне ўладаў да нас і да нашай царквы не зьмянілася. І вось у 1987 годзе ў красавіку нам сказалі ў МВД Літвы, каб мы зьбіраліся эміграваць, што мы й зрабілі, выехаўшы з Савецкага Саюзу 28.V.1987 году.

Настрой у нас ня надта добры. Родны кут ёсьць родны кут, але слава Богу за ўсё. Я хачу выказаць вам падзяку за беларускае слова як на паперы, гэтак і праз радыё. У Беларусі як мы былі, была толькі магчымасьць слухаць вольных Беларусаў па радыё, і гэта было вельмі каштоўна. Каб-жа там былі незалежныя газэты або часапісы. Нажаль, не. Чулі мы пра кніжку Бембеля або пра Кукабаку. І былі мы за праўду для пакрыўджаных.

Хацелася-б нам вельмі мець дыск або магнітафонную касэту із сьпевамі Данчыка. Але ня ведаем, куды павінны пісаць і грошы пасылаць.

Канчаючы гэты ліст, мы хочам сказаць, што хочам трымацца беларускай грамадзкасьці на Захадзе, мусіць найперш у Ангельшчыне. Ну, а вам хочам пажадаць усяго найлепшага, хай прыйдзе час або такая «галоснасьць», калі газэта «Беларус» і падобныя да яе змогуць прадавацца ў Менску і па ўсёй Беларусі.

На памяць — невялікі верш свой:

*Там*

Там ... ганьба тваім сынам быць,
пашана — «расейцам»!
Там... лічаць мове нашай
ня жыць!
Толькі ня ўбачыць сьвету сьмерці
нашага месца,
Беларусь ёсьць каму бараніць,
не адзін Бембель яшчэ знайдзецца,
Але хай і безь мяне і безь цябе, мой
сябар, у барацьбе той не абыйдзецца.

Да пабачаньня,

**Пятро Грыгальчык**
**Тамара Баяроўская**
**Давыд Баяроўскі**

### ПАПУЛЯРНЫ СЛОЎНІК

Паводля «Голасу Радзімы» (9.VII.87), у кнігарнях Беларусі зьявіўся новы слоўнік беларускай мовы пад рэд. акадэміка М. Бірылы. Слоўнік карыстаецца шырокай папулярнасьцяй, піша Сяргей Берднік, у ім даюцца чытачу патрэбныя зьвесткі «пра напісаньне й вымаўленьне, месца націску, формы скланеньня й спражэньня больш як 118 тысяч слоў».

# ГІСТОРЫЯ І САМАСЬВЕДАМАСЬЦЬ

*(З дакладу першага сакратара Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі Ніла Гілевіча на пленуме праўленьня СП.* «Літаратура і Мастацтва», 12.VI.87)

Адна з выяўна вострых сёньня сацыяльна-маральных праблем у нас на Беларусі — гэта нашы адносіны да сваёй гісторыі, да нацыянальнай мастацкай культуры, да роднай мовы, да духоўнай спадчыны народу. Думаецца, што гэтыя адносіны пакуль што добрага слова не заслугоўваюць. Вазьмеце наша веданьне гісторыі Беларусі — зямлі, на якой жывём і патрыётамі якой быць абавязаны. Для насельніцтва рэспублікі, паколькі яно прайшло праз нашы школы, гэтая гісторыя пачынаецца фактычна з рубяжа XX стагодзьдзя, а што было датуль — на працягу добрых дзесяці вякоў — амаль нічога невядома. Галоўная наша бяда ў тым, што беларускія вучоныя-гісторыкі ў большасьці сваёй усё яшчэ сядзяць пад абэцэдарскім калпаком і баяцца вытхнуць з-пад гэтага калпака галаву. Спадзявацца на іх падмогу нам, пісьменьнікам, на вялікі жаль, ня прыходзіцца. Трэба самім церабіць сьцежкі да гістарычных фактаў і адкрываць іх народу. Асабліва важна рабіць гэта ў дачыненьні да гісторыі нашай культуры, таму што, як пісаў у газэце «Правда» Сяргей Залыгін, «няма культуры бязь гісторыі культуры, і пачынаецца яна там, дзе пачынаецца яе гісторыя» (26.09.1986).

Як у Расеі, так і ў нас у Беларусі, нядобрыя сілы стараліся нашу гістарычную памяць усыпіць. Вядома, песенькай: люлі-люлі, баю-бай. Ну, а калі песенька не памагала і ў нянькі канчалася цярпеньне, тады і злосным вокрыкам: «Сьпі, а то дам! Сьпі, кажу табе!...». Але гістарычная памяць народу — не дзіцятка, яна спаць ня можа і не павінна. І яе трэба ня ўсыпляць, а будзіць. Безь гістарычнай самасьвядомасьці цяжка вырашаць усе іншыя жыцьцёва важныя для нацыі і нацыянальнай культуры пытаньні. Што можа зрабіць на карысьць беларускай культуры гаспадарнік або адміністратар, у якога пры імені Каліноўскага, Багушэвіча, Цёткі, Купалы, Коласа, Багдановіча не здрыганецца гарачым трапятаньнем сэрца, які ня скажа сабе праніклёна, як малітву: «Ды гэта-ж тыя, што запалілі сьветач, каб вывесьці тваіх цёмных дзядоў у людзі! Гэта-ж тыя, безь якіх ні самой беларускай нацыі, ні беларускай дзяржавы проста ня было-б! І будзеш ты бяздомным прыблудам, а ня сынам гэтай зямлі, калі для ўшанаваньня іх памяці ня зробіш тое, што ад цябе залежыць!»

Адной з прычын распаўсюджанага ў Беларусі прыніжанага пачуцьця нацыянальнай годнасьці якраз і ёсьць тая сумная акалічнасьць, што недаравальна мала кніг пра выдатныя падзеі і пра вялікіх людзей Бацькаўшчыны за цэлае тысячагодзьдзе: ад першых полацкіх і тураўскіх князёў і да нашых дзён. Вось чаму раскатурханьне гістарычнай самасьвядомасьці ў масах беларускага чытача — надзвычай актуальная задача нашай літаратуры. Трэба з прыемнасьцю адзначыць, што бадай ва ўсіх яе жанрах за апошняе дзесяцігодзьдзе адбыўся прыкметны паварот да мастацкага асэнсаваньня айчыннай гісторыі, вобразнага ўзнаўленьня падзей і выдатных асоб. Пісьменьнікам як-бы нарэшце стала сорамна заставацца ўбаку ад грамадзянскага і творчага подзьвігу незабыўнага У. Караткевіча.

**МАКСІМ ЛУЖАНІН**

### *ЗАКЛАДЗІНЫ ПУШЧЫ*

*Не пад шчаснаю зоркай*
*З тых, што іншым плылі,*
*Я радзіўся на горкай,*
*Вельмі гордай зямлі!*

*Нас за бесцань збывалі,*
*Як ляжалы тавар,*
*А калі мы крычалі,*
*Білі ботам у твар.*

*Я, прагнаны праз чэргі*
*Лесасекі скразной,*
*Сёньня выйшаў празь мергель*
*Надбалотнай сасной.*

*Сыплю зь ветрам насеньне —*
*Пушча жыць будзе зноў,*
*Калі звычкі карэньня*
*Пераймае ў дубоў.*

*Не скрабіся ў пясочку,*
*Жыльле ўглыбкі гані,*
*Пахкіх смол у падсочку*
*Прынясуць карані.*

*Буду век я відушчы,*
*За ўсе крыўды сышчу,*
*Калі новыя пушчы*
*Над сабою ўзрашчу.*

(«Полымя», 1987, №. 5)

### *МУЗЫКА Ў ШКОЛЕ: ВЫПУСТАШЭНЬНЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЗЬМЕСТУ*

*(З артыкулу студэнта Беларускай Дзяржаўнай Кансэрваторыі Міколы Стомы пад заг. «Калі ў сэрцы няма музыкі?», «Чырвоная Зьмена», 19.VIII.87).*

«У нашай рэспубліцы пакуль яшчэ няма ні падручнікаў, ні дапаможнікаў, ні фонахрэстаматыяў, ні кнігаў для настаўнікаў, складзеных у адпаведнасьці зь сёньняшнімі патрэбнасьцямі. Маем толькі 'Программы средней школы. Музыка и пение. I-VIII классы школ с русским языком обучения. — Мінск, выд. «Народная асьвета», 1986, складзеныя на аснове праграмаў Д. Кабалеўскага (расейскі кампазытар — рэд. «Б-са»). (...)

«Практыка работы фальклёрнага гуртка пры Заслаўскім музэі паказала, што дзеці цягнуцца да народных песень... але сярэдняя школа пазбаўляе дзяцей магчымасьці адчуць асаблівасьці беларускай музыкі. Наведваючы сталічныя школы, я прапаноўваў вучням сярэдніх і старэйшых клясаў зьімправізаваць голасам або на інструмэнце ў традыцыях якога-небудзь народу: звычайна былі імправізацыі ў рускім, польскім, гішпанскім і нават пэрсыдзкім духу, і толькі адзін зь дзесяцёх мог прадстаць Беларусам. (...)

«У праграмах для школаў БССР зусім ня прыгадваецца прафэсіянальная беларуская музыка XI-XIX ст.ст...

«Падобная абмежаванасьць і аднабаковасьць прыніжае магчымасьці патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхаваньня і можа выклікаць у школьнікаў уяўленьне пра непазьбежную другараднасьць музыкі свайго народу».

# НЕБА Й ПОЛЫМЯ

**(Аб творчасьці Маркі Шагала)**

У Вашынгтоне адчынілася рэтраспэктыўныя (хай сабе й зь некаторымі абмежаньнямі) выстаўка працаў двух найвялікшых мастакоў XX ст. — Маркі Шагала й Сальвадора Далі. Нябожчык Шагал ды жывы яшчэ, але цяжка хворы Далі і паводля веку свайго могуць быць названыя равесьнікамі стагодзьдзя.

Канкрэтна, 'Падвойны партрэт', — піша Віцьбіч, — адлюстроўвае жанчыну, што стаіць перад мостам праз жаньні ад абраза Маркі Захаравіча «Падвойны партрэт». Абраз гэты знаходзіцца ў Парыскім музэі сучаснага мастацтва і зусім заслужана прызнаны вяршыняй творчасьці вялікага мастака.



*Марка Шагал у сваёй студыі*

Марка Захаравіч Шагал, сын цырульніка й тэатральнага грымёра, нарадзіўся ў мястэчку Лёзьне пад Віцебскам. Віцебск і ваколіцы сталіся ў творчым фармаваньні Маркі Шагала тым-жа, чым быў, прыкладам, Міргарад для Гогаля.

шырокую Дзьвіну, на плячох у жанчыны сядзіць падлетак. На жанчыне балёвая сукенка з глыбокім дэкальтэ, у аднэй руцэ яна трымае веер, на другую нацягнутая белая пальчатка. У падлетка ў аднэй руцэ высака ўзьняты бакал зь віном, а другою ён закрывае

> Марка Шагал пра сябе:
>
> ***«Кожны мастак недзе народжаны. І хоць пасьля ён можа паддацца ўплывам іншых атмасфэраў, пэўная аснова, пэўны водар ягонага месца нараджэньня захоўваецца ў ягонай творчасьці, істотныя сьляды раньніх уплываў застаюцца, так сказаўшы, на почырку мастака... Расеі я добра ня бачыў. Бачыў адно Петраград, Маскву, мястэчка Лёзну ды Віцебск. Апошні зусім асабліві край, асабліві горад. Горад, дзе дзясяткі, блізу сотні сынагогаў, мясныя крамкі, людзі. Якая-ж гэта Расея? Гэта толькі мой горад, мой, які я знайшоў».***

Пра Шагала напісаная вялізарная крытычная літаратура. Ня ўся яна ўлічаная, нажаль. Інстытут сучаснага расейскага мастацтва з цэнтрам у Остане ў Тэксасе (я пажыцьцёвы пачэсны сябра гэтата інстытуту ад першых дзён ягонага заснаваньня) цяпер складае сьпіс артыкулаў і досьледаў аб Шагалу ў расейскай ды іншых славянскіх мовах. У складаньні гэтага сьпісу прасілі й мяне ўзяць актыўны ўдзел. Членам рады дырэктароў інстытуту ведама, што я знаю Марку Захаравіча не з пагалоскі, з цірaз сустракаўся й гутарыў з гэтым вялікім мастаком.

Пералік напісаных у розных мовах працаў аб Шагалу мог-бы скласьці не адну кнігу, а рад бібліяграфічных даведнікаў. Спынюся адно на тым, што незаслужана забытае, але што можа ня толькі дапоўніць, але і ўпрыгожыць выключна багатую літаратуру аб Шагалу. Вось таму я й хачу асабліва спыніцца на двух эсэ выдатнага беларускага пісьменьніка Юркі Віцьбіча.

Пачну зь ягонага эсэ «Марка Шагал і Віцебск». Віцьбіч піша: «Магчыма, нідзе мастак не адзначыў гэтак сваю блізіню да Віцебску, прыадчыняючы адначасна на ягоным фоне сукрыты, патаёмны сэнс свайго творства». І далей Юрка Віцьбіч выказвае свае ўражанчыне правае вока. І як кантрастуе ягоны вясёлы юнацкі твар з трагічным жалобным абліччам маладое прыгожае Гэбрэйкі. Калі з аднаго боку абраза — над Віцебскам блакітнае прадоннае спакойнае неба, дык з другога боку — бачны адно незаплюшчанаму воку жанчыны — вялізарнейшы, быццам з прароцтва Карэліна, пажар.

«Унізе гэтага абраза, — піша далей Юрка Віцьбіч, — дадзеная панарама Віцебску. На пярэднім пляне мост церазь Дзьвіну, а за ім — у воддалі, зьлева направа — губэрнатарскі палац, будынак духоўнае сэмінарыі, велічны Ўсьпенскі сабор, дом Дваранскага збору, вежа Ратушы».

Юрка Віцьбіч мае рацыю, прызнаючы, што «Падвойны партрэт» і аўтабіяграфічны і сымбалічны. Падлетак — гэта вясёлы Марка Шагал, які сядзіць на плячох свае маці, прыгожай Гэбрэйкі з журботнымі задумлівымі вачыма.

Шчасныя нябёсы, у супрацьвагу водбліскам пажараў на зямлі, характэрныя для мастацтва Маркі Шагала. Якбы ні ставіцца да Андрэя Вазьнясенскага, але ягоныя намаганьні ўвекапомніць Шагалаву памяць заслугоўваюць ухвалы й шырокага падтры-

*(Заканчэньне на 7-й б.)*

# ШАГАЛАМ ХВАЛІЦЦА МАСКВА, АЛЕ НЯ ВІЦЕБСК

Усе амэрыканскія большыя газэты й тэлевізійныя станцыі падалі 9-га верасьня пра адчыненьне ў Маскве ў Пушкінскім музэі выстаўкі, прысьвечанае мастацтву ўраджэнца Беларусі Маркі Шагала. «Нью-Ёрк Таймс», «Лёс-Анджэлес Таймс», «Чыкага Трыбюн», «Балтымор Сан» ды іншыя газэты зьмясцілі ілюстраваныя артыкулы пра аднаго з найбольшых волатаў культуры XX-га стагодзьдзя.

Газэта «Балтымор Сан» у падзагалоўку зазначае: «Паводля 'Вялікай Савецкай Энцыкляпэдыі', Шагал 'францускі мастак', хоць нарадзіўся ён на Беларусі».

Газэта «НЁТ» піша, якое змаганьне абаронцы Шагалавае творчасьці, а найбольш расейскі паэт Андрэй Вазьнясенскі, павінны былі правесьці, каб дамагчыся аднаўленьня памяці пра Шагала ў Савецкім Саюзе. Замежныя карэспандэнты выказваюць зьдзіваньне: як можна было гэтулькі дзесяцігодзьдзяў ігнараваць таленавітыя творы Маркі Шагала. Але й цяпер, як выяўляецца ня ўсюды ў Савецкім Саюзе мастак сустрэў прызнаньне. «НЁТ», апісваючы маскоўскую выстаўку Шагалавых абразоў, піша: «На партыйным сходзе ў чэрвені сёлета ў Менску (маецца на ўвазе, відаць, чэрвенскі пленум ЦК КПБ) адзін прамоўца адкрыта атакаваў Шагалаву творчасьць ды запярэчваў Шагалавы сувязі з Савецкім Саюзам».

На маскоўскай выстаўцы паказана больш за 250 работаў мастака, сабраных з прыватных калекцыяў ды павыцягваных са сховішчаў савецкіх музэяў. Экспанаты, адлюстроўваюць творчасьць мастака ў часе ад 1911 г. (калі Шагалу было ўсяго 24 гады) аж да канца ягонага жыцьця на працягу больш як 70-гадовага пэрыяду.

Газэта «НЁТ», між іншага, адзначае, што горад Віцебск, зь якога паходзіць Марка Шагал (мастак нарадзіўся пад Віцебскам у гарадзкім пасёлку Лёзне), не наважыўся тымчасам аднавіць у сябе памяць аб гэтым славутым чалавеку. Да цяму менскіх і віцебскіх бюракратаў найбольш намагаюцца прамовіць два паэты: Андрэй Вазьнясенскі і ягоны беларускі субрат Пімен Панчанка.

У канцы сьнежня летась Вазьнясенскі езьдзіў у Віцебск, каб азнаёміцца зь мясьцінамі, дзе нарадзіўся Марка Шагал. Дом у Віцебску, дзе жыў Шагал, на шчасьце, захаваўся. У доме тым жыве цяпер стары Гэбрэй-маляр. На думку Вазьнясенскага, у гэным доме вельмі мала што трэба зьмяніць, каб ператварыць яго ў музэй. Гутарыў Вазьнясенскі і з Шагалавай жонкай (Шагалы апошнімі гадамі жылі ў Парыжы). Жонка сказала, што калі-б у Віцебску адчыніўся музэй ейнага мужа, яна падарыла-б музэю некаторыя абразы. Цяпер, — сказаў Вазьнясенскі (як пісала газэта «НЁТ» за 16 сакавіка сёлета), — усё залежыць ад мясцовых уладаў Віцебску, але пастановы ў гэтым пытаньні яшчэ няма.

На тэму Шагалавага музэю ў Віцебску выказаўся ў лютым сёлета й беларускі савецкі паэт Пімен Панчанка, адзін зь перадавікоў галоснасьці. У газэце «Літаратура і Мастацтва» за 27 лютага Панчанка зьмясьціў верш «Гістарычны вэрлібр» з падзагалоўкам: «Амаль казка». У вершы ёсьць гэткія горкія радкі на адрас віцебскіх і менскіх бюракратаў:

Сусьветна вядомы мастак  
Віцябчанін Шагал,  
Які апантана любіў свой горад  
І фантастычна пісаў  
Віцебскіх шаўцоў і краўцоў;  
Кароў, якія лётаюць;  
Васількі і дзяўчат,  
У якіх на месцы сэрца  
Былі чорныя дзіркі;  
А таксама ньюёркскія небаскробы,  
Якія развальваюцца ў промнях сонца.

Перад сьмерцю  
Захацеў Шагал падарыць  
Роднаму Віцебску  
Некалькі дзясяткаў сваіх карцін.  
Мясцовыя кіраўнікі  
Пры актыўнай падтрымцы  
Саюзу мастакоў Беларусі  
Сказалі:  
«Нам не патрэбны мадэрністы».  
Шагал пакрыўдзіўся і памёр...  
А Віцебск страціў  
Мільёны турыстаў.

## «НЬЮ-ЁРК ТАЙМС» ПРА Л. ТАРАСЭВІЧА

Газэта «Нью-Ёрк Таймс» (5.VI.87) зьмясьціла агляд дзьвюх выставак абразоў Лёніка Тарасэвіча ў ньюёркскіх галерэях Эдварда Торпа й Дамона Брандта. Аб гэтых выстаўках пісалася ўжо ў «Беларусе» (№ 335), дзе Лёнікавыя творы разглядаліся больш зь беларускага гледзішча.

Пра абразы Тарасэвіча ў галерэі Торпа «НЁТ» піша: « Выстаўка выразна паказвае, да якое ступені мастакі, што жывуць далёка ад галоўных плыняў мастацкае творчасьці, паінфармаваныя цяпер пра тое, што дзеецца па цэлым мастацкім сьвеце.

У сваіх малюнках, піша «НЁТ», Тарасэвіч ужывае штрыхі, лініі й крапінкі ды напаўняе іх сьвятлом і рытмамі Усходняй Эўропы.

Абразы ў галерэі Эдварда Торпа запоўненыя простымі й дыяганальнымі лініямі, непасрэдна падказаныя вузорамі травы, дрэваў і ценяў. Сьвятло тут надзвычайна важнае і яно прасочваецца й дажджыцца над усім. Мацнія абразоў залежыць ад здольнасьці мастака захаваць абстрактнасьць лініяў і не надаваць ім чалавечых характарыстыкаў. Аднак сп. Тарасэвіч усё яшчэ вагаецца паміж жаданьнем перадаць сваё адчуваньне прыроды ды жаданьнем намаляваць закончаны абраз.

Выстаўка ў галерэі Дамона Брандта складаецца з твораў на паперы ды з аднаго збудаваньня. На найбольшым малюнку паказаныя пні сьсечаных дрэваў, яны стаяць як тыя надмагільныя помнікі, якія мы бачым на відэо Бруса Спрынгстына «Народжаны ў ЗША». Што робіць гэты малюнак найбольш удалым, гэта тое, што лініі ў пэрспэктыве злучаюцца недзе па-за межамі абраза. Другі малюнак нагадвае нам мэталёвыя кра́ты, якімі зачыняюцца ньюёркскія магазыны на ноч. Але краты гэтыя выглядаюць як драўляныя слупкі. На наступным малюнку чорныя лініі нагадваюць вулічны затор аўтамабіляў, бачаны зьверху. Але тут ізноў лініі падобныя да дрэваў, ды ізноў гэта дае гуманізуючы эфэкт.

Гэта — творы маладога мастака, але мастака сьмелага і зь ідэямі.

Далучайцеся да абаронцаў Беларускае мовы на Бацькаўшчыне — падтрымвайце й пашырайце газэту «Беларус»!

# БЛАЖЭННЫ ЮРЫ МАТУЛЕВІЧ

28 чэрвеня сёлета Папа Рымскі Ян Павал II ў часе літургіі, прысьвечанай 600-годзьдзю хрысьціянства ў Літве, залічыў у лік блажэнных літоўскага архіепіскапа Юргіса Матуляйціса (1871-1927). Матуляйціс, ведамы сярод Беларусаў як Юры Матулевіч, быў ня толькі вялікім прыхільнікам беларускага народу, але й актыўна спрыяў Беларусам у іхным змаганьні за ўвядзеньне роднае мовы ў Каталіцкай Царкве ў Беларусі.

Дзейнасьць Біскупа Матулевіча ў Віленскай дыяцэзіі прыпадае на канец першай нямецкай акупацыі Беларусі ды на пачатак польскага панаваньня ў Заходняй Беларусі, на гады 1918-1925. Ужо сваё ўступленьне на біскупскую катэдру ў Вільні, якое адбылося 8 сьнежня 1918 г., Матуляйціс адзначыў тым, што зажадаў, каб папская будьля, якой ён прызначаўся на катэдру, была прачытаная ў катэдральным касьцеле і пабеларуску. Нажаль, выканаць гэты пастырскі намер ён ня змог з прычыны супраціву Віленскай каталіцкай капітулы, якая была ў польскіх руках.

Незважаючы на перашкоды з боку капітулы, Біскуп Матулевіч ня толькі пачаў вывучаць беларускую мову, але зьвярнуўся да апостальскага візытатара ў Варшаве з просьбай аб прызначэньні ў Вільню беларускага біскупа-суфрагана. Адначасна ён працягваў пачынаньні свайго папярэдніка Мітрапаліта Адварда Ропа ўводзіць беларускую мову ў касьцёлы, дзе большыня веруючых карысталася беларускай мовай і дзе яна ўжо ўжывалася была й раней. Гэтак, на зьезьдзе дэканаў у жнівені 1919 г. была прынятая пастанова, каб беларускім дзецям катэхізіс тлумачыўся ў беларускай мове.

Прыхільна паставіўся Біскуп Матулевіч і да дамаганьняў беларускага каталіцкага духавенства ўвесьці беларускую мову ў Віленскую Духоўную Сэмінарыю, а таксама аб назначэньні біскупа-суфрагана Беларуса. Дзякуючы яму Беларусы-каталікі ў Вільні атрымалі таксама права карыстацца касьцёлам сьв. Мікалая, які палежаў да каталікоў-Літоўцаў. За часамі Матулевіча быў зроблены таксама першы крок у кірунку выданьня рэлігійнай літаратуры ў беларускай мове.

Нажаль, усе пачынаньні Матулевіча на карысьць беларускае мовы былі спыненыя канкардатам, падпісаным паміж Польшчай і Ватыканам 10 лютага 1925 г. на дамаганьне польскага ўраду. У 12-м і 19-м параграфах канкардату адзначалася, што ўжываньне беларускай мовы ў багаслужбах і катэхізацыі дзяцей узаляжнялася ад згоды польскага епіскапату: Матулевіч, які спрыяў Беларусам, вымушаны быў адрачыся ад архібіскупскае Віленскае катэдры.

Як адзначае а. Адам Станкевіч у сваёй працы «Родная мова ў сьвятынях» (Вільня, 1925): «Час гэты для пастырскай працы быў нябывала цяжкі, бо гэта час паваеннай дэмаралізацыі, час разгару польскага нацыяналізму й фанатызму, а таксама час актыўнага змаганьня за свае правы Літоўцаў і Беларусаў.

«Ня гледзячы аднак на гэтыя нязвычайныя цяжкасьці, — пісаў а. Станкевіч, — Біскуп Матулевіч патрапіў заўсёды быць бесстаронным, да ўсіх справядлівым. Польскі нацыяналізм, прывыкшы бачыць Каталіцкі Касьцёл у нашым краі, як прыладу польскасьці, пеніўся са злосьці на біскупа й рабіў яму што раз цяжэйшыя, што раз больш дзікія перашкоды ў ягонай душпастырскай працы. Найвялікшым з польскага боку гэтаму пастыру закідам была ягоная прыналежнасьць да літоўскай народнасьці. Біскуп Матулевіч, ня хочучы раздражняць сваіх ворагаў, у 1925 годзе, ня гледзячы на просьбы Сьвяцейшага Айца застацца на катэдры, зракаецца Віленскага біскупства, пакілаючы за сабой і надалей кіраўніцтва законам Айцоў Марыянаў, якога ён быў гэнэралам і якім застаўся да сьмерці ў 1927 годзе.

«Памёр Архібіскуп Юры Матулевіч у Коўні акружаны арэолам сьвятасьці, якую прызнавалі нават ягоныя ворагі. Ужо тады ў шырокіх колах каталіцкага грамадзтва, бяз розьніцы нацыянальнасьці, хадзілі чуткі аб канарызацыі яго, гэта значыць аб залічэньні яго ў лік сьвятых».

**Язэп Барэйка**

«ЛІБР БЭЛЬЖЫК» ПРА МАТУЛЕВІЧА

Францускамоўная бэльгійская газэта «Лібр Бэльжык» (7.VII.87) у кароткім паведамленьні падала пра бэатыфікацыю Біскупа Матуляйціса (Матулевіча), які, паводля газэты, «працаваў над прымірэньнем Палякоў, Літоўцаў і Беларусаў з глядзішча на нацыянальнае самавызначэньне кожнага зь іх».

# *ВАЖНЫ ЎКЛАД У МЭМУАРНУЮ ЛІТАРАТУРУ*

Аляксандра Саковіч: **«У пошуках праўды». Апавяданьні й аповесьці.** Выданьне Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Нью-Ёрк—Клíўленд, 1986.

У беларускай эміграцыйнай літаратуры да мэмуарнага жанру можна залічыць бальшыню твораў Кастуся Акулы, кнігу др. Язэпа Малецкага «Пад знакам Пагоні», «Кветкі і церні жыцьця» Анатоля Жмені (псэўданім а. Льва Гарошкі), «На крыжовай дарозе» Аўгена Калубовіча і нядаўна выдадзеную БІНіМам кнігу Аляксандры Саковіч «У пошуках праўды».

Імя Аляксандры Саковіч добра вядомае беларускаму чытачу на Захадзе. Калі ня лічыць ейнага артыкулу-ўспаміну пра Менск 1930-1931 гг., які быў зьмешчаны ў 54-ым нумары выдаванае ў Бэрліне газэты «Раніца» (артыкул падпісаны псэўданімам Б. Еўтух), дык яно пачало часта зьяўляцца на старонках беларускіх эміграцыйных выданьняў у 50-х гадох. Маем на ўвазе ейныя ўспаміны й артыкулы пра Беларусаў у Адэсе, гісторыю Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, нарысы пра выдатных вучоных Мітрафана Даўнар-Запольскага й Пётру Бузука, а таксама апавяданьні «У няведам'е», «Мы з адной сям'і» ды інш., выдрукаваныя ў часопісах «Веда», «Конадні», «Запісы», у газэтах «Беларус» і «Бацькаўшчына».

Але спачатку крыху пра саму аўтарку кнігі «У пошуках праўды». Аляксандра Саковіч, запраўднае імя й прозьвішча Іна Каханоўская, нарадзілася 27 сьнежня 1906 г. ў Адэсе, на Украіне. Бацькі А. Саковіч паходзілі зь Беларусі, зь мястэчка Ярэмічы, што на Наваградчыне. Дзіцячыя гады яна правяла ў Адэсе, там-жа скончыла сярэднюю школу, там прайшла праз цяжкае неспакойнае жыцьцё ваеннага часу, рэвалюцыі ды ўстанаўленьня савецкае ўлады.

Увосень 1921 г. з групаю адэскіх Беларусаў А. Саковіч паехала на працу ў Менск.

Перабраўшыся ў Менск, будучая пісьменьніца незаўсёды зьвязвае свой далейшы лёс зь Беларусяй, беларускай культурай, з пэдагагічнай дзейнасьцяй і літаратурнай творчасьцю. Ейнай Альма Матэр стаўся Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт, дзе яна правучылася чатыры гады. Унівэрсытэт, адзначае А. Саковіч у сваёй кнізе, «зрабіў вялізны ўплыў на мой сьветапагляд, пакінуў найдаражэйшыя ўспаміны».Успаміны А. Саковіч пра студэнцкія гады й тагачаснае жыцьцё ў Менску надзвычай цікавыя. Аўтарка была знаёмая зь Янкам Купалам, са Зьмітраком Бядулем ды іншымі беларускімі пісьменьнікамі. Пра шмат каго зь іх яна піша ў сваіх апавяданьнях і аповесьцях.

Улетку 1930 г. А. Саковіч выйшла замуж, і разам з мужам пераехала ў Маскву, дзе ён працаваў інжынерам-канструктарам.

Калі нахлынула яжоўшчына, мужа арыштавалі, абвінавацілі ў «контррэвалюцыйнай дзейнасьці», саслалі ў канцэнтрацыйны лягер на Калыму. А. Саковіч у роспачы, адзінокая і беззабаронная, пры першай нагодзе вяртаецца ў бацькоўскі дом у Ярэмічы. Там, пад нямецкай акупацыяй ужо, працавала настаўніцай, а ў 1944 г., каб не перажываць ізноў раней пражытае А. Саковіч выяжджае на Захад, на эміграцыю.

У 1950 г. яна прыбыла ў Амэрыку, ці, як яна піша, «дабралася да ветлых берагоў ЗША». Першыя пяць год пражыла ў Нью-Ёрку, а тады пабралася зь ведамым беларускім навукоўцам Аўгенам Каханоўскім (Калубовічам) і пасялілася ў Клíўленьдзе, дзе жыве й цяпер (А. Калубовіч памёр 26-га траўня сёлета).

Апавяданьні А. Саковіч (у кнізе іх 12) і аповесьці (іх дзьве) у значнай ступені аўтабіяграфічнага характару. У іх найбольш адлюстраванае жыцьцё беларускіх студэнтаў і беларускага грамадзтва Менску 20-х гадоў, а таксама падзеі 30-х гадоў, гадоў сталінскага тэрору, падзеі апошняй вайны, калі «Ярэмічы палілі і Немцы, і партызаны» (аповесьць «Браты»), ды жыцьцё на эміграцыі.

У шмат якіх творах поруч з удумлівым асэнсаваньнем рэчаіснасьці мільгаюць матывы каханьня, рамантыкі, шчырае дружбы, нацыянальнага ідэалізму й патрыятызму. Усё гэта напісана прыгожай мовай, шчыра й сардэчна.

Кніга А. Саковіч — важны ўклад у беларускую мэмуарыстыку, вартасны гістарычны дакумэнт, асабліва што да падзеяў 1920-х гадоў, бо бальшыня сьветкаў таго пэрыяду ўжо ня жыве.

У кнізе зьмешчаныя цікавыя рэдкія фатаграфіі, што цудам уцалелі, і гэта робіць кнігу яшчэ больш каштоўнай.

У канцы кнігі падаецца бібліяграфія публікацыяў Аляксандры Саковіч (усяго 29 пазыцыяў), што дазваляе чытачу пазнаёміцца з усёй творчай спадчынай пісьменьніцы. Як вельмі станоўчае, трэба адзначыць тое, што ўступ да кнігі («Пра тое, што ў сэрцы») дадзены таксама ў ангельскай мове. Гэта толькі будзе спрыяць ейнаму пашырэньню ў заходнім сьвеце, асабліва сярод пакаленьня Беларусаў, якое, як і аўтарка, пазнала сваю родную бацькаўшчыну праз сваіх бацькоў, прыклад варты насьледваньня.

Беларускаму грамадзтву і асабліва беларускай грамадзе ў Клíўленьдзе, пры шчодрай дапамозе якіх выйшла кніга А. Саковіч, ды Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, які ажыцьцявіў на высокім паліграфічным узроўні гэтае вартаснае й цікавае выданьне, належыцца вялікі шчыры дзякуй!

**В. Сянькевіч**

# *ДА КОНКУРСУ «КНІГА Ў НАШЫМ ЖЫЦЬЦІ»*

Газэта «Літаратура і Мастацтва» (13.III.87) паведаміла, што ў рэспубліцы падведзеныя вынікі конкурсу «Кніга ў нашым жыцьці», праведзенага таварыствам аматараў кнігі ды саюзамі пісьменьнікаў і журналістаў БССР.

Хоць крышку спозьнена, але да гэтага конкурсу далучаецца й газэта «Беларус». Ня пішам нарысу на тэму «Кніга ў нашым жыцьці», а падаём статыстыку заплянаваных у БССР на 1987 год кніжных выданьняў. Падлікі зробленыя паводля беларускіх савецкіх каталёгаў.

Вось-ж выдавецтва «Вышэйшая Школа» заплянавала выдаць сёлета 149 кніжак — парасейску 142 і толькі 7 пабеларуску; выдавецтва «Ўраджай»: на 98 кніжак толькі 12 выдасьць пабеларуску (зь іх чатыры — творы клясыкаў марксызму-ленінізму, якіх ніхто ня чытае!); выдавецтва «Навука і Тэхніка» плянуе выдаць 161 кнігу, зь іх толькі 13 пабеларуску; выдавецтва «Ўнівэрсытэцкае» з 69-х кніжак выдасьць толькі 6 пабеларуску.

Крыху лепш выглядае справа зь беларускамоўнай кнігай у выдавецтвах «Юнацтва», «Народная Асьвета» ды «Літаратура і Мастацтва», але й тут агульны тыраж расейскамоўных кніжак далёка-далёка перавышае тыраж беларускамоўных.

Гэткім парадкам, беларускамоўная кніга «ў нашым жыцьці» ў БССР ганебна сьпіхнутая на далёкае задняе месца, на якім яна адлюстроўвае непаслабную русыфікатарскую палітыку савецкае ўлады. У палітыцы гэтай усё яшчэ ня відаць грунтоўных зьменаў на лепшае і пры новай гарбачоўскай «перабудове».

## *ЛІСТ 134-Х ПААНГЕЛЬСКУ*

Згуртаваньне Беларусаў у Вялікабрытаніі выдрукавала другім выданьнем ліст 134-х абаронцаў беларускае мовы да Генэральнага Сакратара ЦК КПСС М. Гарбачова з расейскім арыгіналам і ангельскім перакладам, а таксама з ангельскім перакладам дадаткаў.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД

Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва прысланыя ахвяры:

| | |
|---|---|
| А. і Л. Бяленісы | 250 |
| С. і О. Нарушэвічы | 100 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| Н. Орса | 30 |
| А. Асіпчык | 20 |

## УКРАІНСКАЯ ГАЗЭТА ПРА ЛІСТ 134-Х

Украінская англамоўная газэта Ukrainian Weekly, што выходзіць у ЗША, зьмясьціла ў нумары за 30-га жнівеня артыкул Рамана Салчаніка пра адкрыты ліст 134-х беларускіх абаронцаў роднае мовы да М. Гарбачова (тэкст ліста гл. ў «Беларусе» № 338). Сп. Салчанік дакладна пераказаў зьмест ліста ды выказаў пры гэтым моцнае сумляваньне, ці той заклік, зь якім аўтары ліста зьвярнуліся да Гарбачова, дасьць пажаданыя вынікі. «Пасьля артыкулу Эдуарда Баграмава ў газэце 'Праўда' за 14 жнівеня, у якім партыя выклала сваю пазыцыю ў нацыянальным пытаньні, — зазначае Раман Салчанік, — выглядае зусім выразным, што важных зьменаў у гэтым патаньні нельга спадзявацца».

# НЕБА Й ПОЛЫМЯ

*(Працяг зь 5-й б.)*

маньня. Вазьнясенскі прысьвяціў Шагалу задушэўны верш, які канчаецца словамі: «адзіным небам жывы чалавек».

Марка Шагал — гэта майстра, які адначасна выйшаў і зь біблейнае «Песьні песьняў» і з апакаліптычных відзежаў прарока Ераміі. Гэта мастак шчаснасьці на зямлі й катастрофаў у нябёсах.

Шагал — клясык мадэрнісцкага малярства і легендарная постаць у сусьветным мастацтве. Як быццам царыца Сэміраміда прыслала яму з далёкае старавечнасьці зярняты пладовых дрэваў і кветнікаў зь вісячых садоў сваіх. Шагал і вырошчваў іх на сваіх незраўнаных хварбамі абразох. Гэта пра яго кажуць: слава табе, што падараваў нам сьвет колеру.

Тым-жа самым часам рысунак у Шагала выдаецца нейкім здэфармаваным, дзіцячым, наіўным, навет прымітыўным. Марка Захаравіч сваім часам сказаў мне, прачытаўшы мой артыкул у зарубежнай газэце «Новое Русское Слово», што ён узрушаны маймі ўражаньнямі ад ягоных рысункаў. А я пісаў, што рысунак у Шагала цудадзейным чынам зрастаецца з маляўнічым лірызмам ды музыкальным настроем ягоных абразоў. Эпіграфам да свайго артыкулу, што спадабаўся Шагалу, я ўзяў гэткія радкі з Гетэ: «Якое шчасьце быць каханым, якое шчасьце пакахаць!»

Шмат людзей дазнаюць адчуваньне лёту ў сьне. Гэтае адчуваньне можа быць радасным і сумным. Шагал якбы перамяшчае сон у яву. У яго закаханыя адрываюцца ад зямлі і, трымаючыся за рукі, лунаюць над мастамі й паркамі, над клюмбамі красак у садох, над лялеямі ў ставох.

Скрыпачы й віялянчэлісты ў яго цірэдчас рашчыняюцца ў матывах тых кампазыцыяў, якія выконваюць гэтыя музыкі. У гэтым сэньсе Шагалавы дэкарацыі да «Чараўнічае флейты» Моцарта і да балету «Жар-птушка» Стравінскага асабліва заслугоўваюць на ўвагу.

Скрайнасьці, як ведама, зыходзяцца. А Марка Шагал — мастак дзьвюх скрайнасьцяў: арэтузіянскае (Арэтуза — міталягічны край вечнае вясны) і апакаліптычнае. Яшчэ да рэвалюцыі Марка Шагал намаляваў пахілены насьценны гадзіньнік на вуліцах Віцебску ды Гэбрэя, што лётае ў дамавіне, прычым дамавіна стаіць на бруднай вуліцы перад домам. Мастак з-заладу таіў апакаліптычныя прадчуваньні.

Другі артыкул Юркі Віцьбіча прысьвечаны радаводу вялікага мастака. Як выяўляецца, прадзед ягоны таксама быў рэлігійным мастаком, размаляваў сынагогу на школішчы ў Магілеве. Захаваліся дакумэнтальныя сьветчаньні аб тым, што сынагога была размаляваная Шагалавым прадзедам. Вось што піша пра гэтую сынагогу Юрка Віцьбіч:

«У 1937 годзе мне давялося пабываць у ёй разам з былым гадунцом гэбрэйскае духоўнае сэмінарыі-ешыботу Самуілам Плаўнікам, які стаўся, пад псэўданімам Зьмітрок Бядуля, адным з найбольш папулярных беларускіх пісьменьнікаў.

Усярэдзіне сынагога была размаляваная таленавітай рукой прадзеда Маркі Шагала. Насьценнае малярства запоўніла ўвесь будынак натхненнай і вешчай сымболікай біблейскіх прарокаў, запэцканай унізе няцэнзурнымі напісамі вуглём і крэйдай. У вокнах былі ня толькі павыбіваныя ўсе шыбы, але й папераломваныя пераплёты рамаў».

І гэткае здарылася не за часамі нацыстаўскае акупацыі, а за Сталінам, у самым гарце ява ежоўшчыны. Віцьбіч далей паведамляе, што сынагогу гэтую разбурылі ў 1938 годзе, тады зьгінула й насьценнае малярства прадзеда Маркі Шагала.

Казалі таксама, што Шагалаў прадзед размаляваў у Менску сынагогу ды некаторыя магільныя скляпы на гэбрэйскім могільніку. Яшчэ да рэвалюцыі фатограф Анатоль Паўловіч зрабіў колькі фатаграфіяў размалёвак магільных скляпоў, прыпісваных Шагаламу прадзеду (у менскую сынагогу рабін чамусьці ня ўпусьціў Паўловіча). Шагал мне казаў, што ведае пра гэныя фатаграфіі, але ў яго няма цьвярдое пэўнасьці, што гэта здымкі з працаў ягонага прадзеда.

Калі я ў гутарцы з мастаком зазначыў, што ў гэтых размалёўках ёсьць нешта агульнае зь ягоным арыгінальным малярствам, Марка Захаравіч мне запярэчыў:

— Што значыць «нешта агульнае»?.. Вось нядаўна археолягі раскапалі руіны сынагогі ў Эгіпце каля Александрыі. Падлога сынагогі блізу двутысячагадовай даўнасьці добра захавалася... Я не Агасфер, гэта значыць вечны Жыд, — сказаў мне Шагал, — але кажуць, што размалёўкі падлогі старавечнае сынагогі нечым нагадваюць размалёўкі столі Парыскае опэры, якую я размаляваў. Але апрача спадчыннай памяці ў мяне ёсьць і сваё, да іншых непадобнае баччаньне часу.

Гэта праўда. Індывідуальнае Шагалава майстроўства нельга пераймаць: мастак і формаю і зьместам своеасаблівы, непаўторны, і ўсё-ж спадчынная памяць дапамагла Марку Шагалу пэрыядычна рабіць экспэдыцыі ў біблейскую мінуўшчыну ягоных далёкіх прашчураў.

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

**Вячаслаў Завалішын**

## НЯМА ГРОШАЙ НА Ф. БАГУШЭВІЧА

У расейскамоўнай «Сельскай Газэце» (19.VIII.87) В. Лукашэнка із Смаргонскага раёну піша:

«Смаргоншчына багатая дарагімі нам рэліквіямі — знакамі духовага багацьця, пакінутага нам у спадчыну. Вось хоць-бы дом выдатнага паэта-дэмакрата Францішка Багушэвіча, песьняра паднявольнай сялянскай долі. Калгас '50 год БССР', на тэрыторыі якога знаходзіцца дом, падтрымвае яго, наколькі можна, ад развалу. Мясцовы энтузіяст М. Ляпеха даглядае яго, водзіць экскурсію ўдзячных аматараў ягонае паэзіі, наведвальнікаў, што прыяжджаюць на бацькаўшчыну паэта. Але будынак патрабуе грунтоўнай рэканструкцыі. Ужо й падрадчык ёсьць, — тэрміны вызначаныя. Трэба сьпяшацца — не за гарамі 150-годзьдзе ад дня нараджэньня Ф. Багушэвіча. Вось толькі сродкі на добрую справу пакуль што ня знойдзеныя: дзе іх узяць, тымчасам ні ў раёне, ні ў вобласьці ня ведаюць».

Газэта «Беларус» мае прапанову: абвесьціць сярод Беларусаў на Захадзе збор дабраахвотных ахвяраў на рэстаўрацыю Багушэвічавага дому. На знак нашае гатовасьці да праўдзеньня гэткага збору пасылаем экзэмпляр гэтага нумару газэты міністру культуры БССР.

# БУДАЎНІКІ СЬВЯТАДУХАЎСКАЕ ЦАРКВЫ Ў БЕЛАСТОКУ



*На рыштаваньнях будучага купалу (справа налева): галоўны архітэктар Ян Кабаца, Уладыка Сава, а. Серафім Жалязьнякові, прозьвішчы двух наступных ня ведамыя (адзін зь іх, сьпераду, — памочнік архітэктара) і а. Юры Барэчка, настаяцель царквы Сьв. Духа.*

Айцец Жалязьняковіч у лісьце да сп. Пётры Кажуры, які займаецца зборам ахвяраў на будову Сьвятадухаўскае Царквы, піша: «У гэтым годзе стаіць перад намі важная задача: давесьці будову да верху і накрыць. Дзякуючы Вашым стараньня і дабраце, будаўляныя работы не затрымаліся, і калі стане часу, можа, Бог дасьць на зіму храм будзе пад дахам».

## МЭДАЛЬ АРХІЕПІСКАПУ МІКАЛАЮ

**ад брытанскага Міністэрства Абароны**

Даведаўшыся, што былым вайскавікам у Канадзе належацца пэўныя ільготы, Архіепіскап БАПЦ Мікалай, былы вайскавік, на пачатку лістапада 1984 г. наведаў Галоўную Канцылярыю Вэтэранскіх Справаў Канады. Там яму сказалі, што трэба дастаць адпаведныя дакумэнты і далі адрасы куды пісаць. Уладыка Мікалай напісаў ліст у брытанскае Міністэрства Абароны аб тым, што ён быў у польскім войску ў 1939 г. ды што ў 1945 г. жыў у Вялікай Брытаніі, як вэтэран вайны. Міністэрства Абароны адразу-ж пацьвердзіла ягоную вайсковую службу, але толькі ў 1945 годзе. Ды ўжо на аснове гэтага дакуманту Уладыка дастаў у Канадзе права на грашовую дапамогу й дармовую ахову здароўя (амбулянс, дэнтыстычную абслугу, акуляры, слухаўкі ды батарэйкі да іх, мэдычнае забясьпечаньне — тое, чаго канадзкая ахова здароўя не пакрывае).

У жнівені-ж сёлета Уладыка Мікалай атрымаў другі ліст з брытанскага Міністэрства Абароны. У гэтым лісьце пацьвярджаныя асабістыя дадзеныя (дата й месца народжаньня, імёны бацькоў, нават сказана, чым адрасат займаўся перад войскам у Мотаді на Палесьсі) і названы таксама дакладны час вайсковае службы ў польскім войску (ад 20 студзеня да 17 верасьня 1939 г.). Разам з гэтым брытанскае Міністэрства Абароны прыслала Архіепіскапу Мікалаю мэдаль за ўдзел у вайне 1939-1945 гадоў.

Вітаем Уладыку Мікалая з фармальным прызнаньнем ягонага вэтэранства ды з мэдалём, на атрыманьне якога спатрэбілася больш за сорак гадоў.

## МЕНСКАЕ МЭТРО Й РАЗБУРЭНЬНЕ САБОРУ

Будова савецкага сацыялізму заўсёды суправаджалася руйнаваньнем цэркваў, касьцёлаў, сынагогаў — плянава й бясплянава. Аж да нашых дзён.

Як напісаў у газэце «Советская Белоруссия» (21.VIII.87) археоляг Н. Багадзяж, у выніку будаўніцтва менскага мэтро, праваслаўны сабор (былы касьцёл бэрнардынак, пабудаваны ў XVII ст. — «цудоўны ўзор тыпова беларускага барока») пачаў даваць трэшчыны ў сьценах. «Трэшчыны зьявіліся пасьля таго, як у беспасярэдняй блізіні да сабору пачаліся работы будаўніцтва мэтро. Калі ў зямлю заганяюць палі, ня толькі дрыжаць шыбы. Ня вытрымваюць і камяні.

«Трэба зрабіць усё магчымае, — піша Н. Багадзяж, — каб захаваць гэты гістарычны помнік».

## ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ

Як сказаў галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя» Іван Шамякін («Настаўніцкая газэта», 1.IX.87), рыхтуецца цяпер да друку: другое выданьне БелСЭ ў 14-х тамох, энцыкляпэдычны даведнік «Францыск Скарына і яго час», шматтомная энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі, а таксама дакумэнтальна-гістарычная хроніка «Памяць», якая, сказаў Шамякін, «будзе пэтаптна выходзіць па раёнах рэспублікі».

## АБВЕСТКА

ПРАДАЕЦЦА «Ангельска-беларускі разгаворнік з вымовай». Зь перасылкай — 3 даляры. Паветранай поштай — 4 даляры.

Basil Kosarou
1105 East 25 St.
Erie, Pa. 16503
U.S.A.

## РЭДКІЯ БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У аднэй з найбольшых бібліятэкаў Амэрыкі, Публічнай Бібліятэцы Нью-Ёрку, у верасьні адчынілася выстаўка рэдкай беларускай кнігі. Выстаўка будзе трываць да пачатку кастрычніка.

Аб беларускай кніжнай калекцыі Славянскага аддзелу бібліятэкі ў анатацыі сказана гэтак: у аддзеле налічваецца каля 4-х тысячаў кніжак у беларускай мове, колькі дзесяткоў камплектаў старых часапісаў і газэтаў, улучна зь мікрафільмамі газэтаў «Наша Ніва» й «Гоман», дзесяткі бягучых часапісаў і газэтаў, камплекты беларускіх бібліяграфічных даведнікаў і дапаможнікаў ды каля сотні даведнікаў. Бібліятэка мае таксама фрагмэнты Бібліі Францыцішка Скарыны 1518 году выданьня, мікрафільм манускрыпту аповесьці XVI ст. аб Трыстану й Ізольдзе, колькі выданьняў друкарні братоў Мамонічаў у Вільні ды іншыя беларускія рэдкія кнігі.

Цяпер паказаныя гэткія рэдкія кнігі, як «Часоўнік» 1796 г. выданьня віленскага Троіцкага праваслаўнага брацтва, «Смык Беларускі» Францішка Багушэвіча 1894 году выданьня, збор твораў Міхася Зарэцкага «Пад сонцам» (Менск, 1925 г.; гэты зборнік вызначаецца асабліва выдатна апрацаванай графікай) ды іншыя. Беларуская калекцыя рэдкіх кнігаў стала папаўняецца. Як сказала нам заступнік шэфа Славянскага аддзелу сп-ня Зора Кіпель, «Часоўнік» 1796 году быў набыты літаральна пару тыдняў перад адчыненьнем выстаўкі.

## СЦЭНЗУРАВАНАЯ БІБЛІЯГРАФІЯ

У выдрукаванай летась выдавецтвам «Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя» працы «Кніга Беларусі: 1517-1917. Зводны каталог» цэнзура выкінула дзеля ідэялягічных прычынаў цімала важных кніжак, якія нармальна мусілі-б быць улучаныя ў каталёг. Прапушчаныя, прыкладам, кніжкі Вацлава Ластоўскага «Кароткая гісторыя Беларусі» (год выд. 1910), «Першая чытанка» (1915 г.), «Родныя зярняты» (1916 г.). Ня ўлучаныя ў гэты «зводны» каталёг гэтаксама: кніжка Антона (не Язэпа!) Лёсіка «Ня ўсе разам, ягамосьці« (1915 г.), праца Аляксандра Цьвікевіча аб БНРаўскім руху (1917 г.) ды публікацыі Антона Луцкевіча (псэўданім Антон Навіна). Прапушчаныя таксама і некаторыя працы зь гісторыі Беларусі С. Шчарбіцкага, выдадзеныя ў Вільні ў канцы мінулага стагодзьдзя.

Укладальнікі «зводнага» каталёгу пайшлі яшчэ далей, зрабілі тое, чаго перад імі ў беларускім кнігазнаўстве ніхто не рабіў: яны, падаючы зьмест зборнікаў, павыкідалі некаторых аўтараў. Прыкладам, у пераліку матар'ялаў першага выпуску альманаху «Маладая Беларусь», які выходзіў у Пецярбургу, выпушчаныя артыкулы Антона Луцкевіча; у зьмесьце зборнікаў «Нашай Нівы» прамоўчаныя артыкулы і Луцкевіча і Ластоўскага, а таксама апавяданьне Аляховіча-Чэркаса (відаць, укладальнікі думалі, што гэта Францішак Аляховіч, тымчасам як гэта зусім іншы чалавек).

Гарбачоўская адлега, «галоснасьць», лібэралізацыя яшчэ не закранулі шмат якіх дзялянак, цэнзура ўсё яшчэ забараняе згадваць навет у бібліяграфічных даведніках прозьвішчы людзей, што трапілі на чорны сьпісак за часамі Сталіна.

## АРХІЎ ААН ПРА КАЛЯБАРАНТАЎ ГІТЛЕРА

У Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў 17 дзяржаваў, якія ў 1943-48 г.г. уваходзілі ў склад камісіі, што зьбірала дадзеныя пра нацыстаўскіх калябарантаў (камісія сабрала 40 тысячаў дасье на 25 тыс. асобаў), пастанавілі ў ліпені сёлета, каб да гэтых архіваў быў дадзены доступ гісторыкам для правядзеньня росшукаў.

Выступаючы ў Сацыяльным Камітэце Гэнэральнай Асамблеі 26 лістапада летась, дэлегат БССР заявіў, што ў Амэрыцы знайшлі сабе прытулак каля 10-х тысячаў «нацыстаўскіх злачынцаў» ды што сярод іх налічваецца 300 асобаў, якія тварылі злачынствы на беларускай зямлі. Падрабязнасьцяў свайго абвінавачаньня бээсэсэраўскі дэлегат ня даў. Ён паўтарыў яшчэ раз тое, што панапісваў у сваёй кнізе «Сакрэт 'Беларусі'» Амэрыканец Джон Лофтус. Як падавала газэта «Беларус», Лофтусова кніжка была раскрытыкаваная паважнымі амэрыканскімі знаўцамі гэтага пытаньня.

### ПАПРАЎКА

У папярэднім нумары «Беларуса» была дапушчаная памылка ў прозьвішчы чалавека, выдачы якога дамагаюцца Саветы ад канадзкіх уладаў. Трэба: *Катрук* (а не Карцюк).

## ПРЭСАВЫЯ ВЫРАЗКІ

Яшчэ раз просім нашых чытачоў прысылаць у рэдакцыю прэсавыя выразкі з заходняга друку із згадкамі пра Беларусь. Калі ласка, не забывайцеся толькі падаваць назоў і дату публікацыі.

**Нам прыслалі да гэтага нумару** прэсавыя выразкі: Васіль Мельяновіч з Балтымору, Янка Міхалюк зь Лёндану, Анатоль Хрэноўскі з Монрэалю, Часлаў Найдзюк зь Лёс-Анджэлесу, Вера Рамук з Чыкага, Алесь Міцкевіч зь Нью-Ёрку.

Усім шчыра дзякуем!

**Рэдакцыя «Беларуса»**

## *КАЛЯДНЫЯ ВІНШАВАНЬНІ*

Традыцыйна ўжо чытачы «Беларуса» перасылаюць праз газэту свае калядна-навагоднія вітаньні, складаючы пры гэтым пасільную ахвяру ў выдавецкі фонд «Беларуса». Спадзяёмся, што шмат хто з чытачоў зробіць гэтак і сёлета. Просім толькі загадзя паведаміць аб гэтым рэдакцыю ці нашага прадстаўніка на месцы. Тэрмін на атырманьне рэдакцыяй прозьвішчаў (і ахвяраў) для ўлучэньня ў сьвяточны сьпіс — 1-га сьнежня.

## ДАПАМАЖЭМ СУРОДЗІЧАМ!

Камітэт дапамогі суродзічам на Беласточчыне мае рэчы (вопратку, абутак і інш.), але ня мае за што іх выслаць тым, каму яны вельмі патрэбныя. Мы ня маем грошай на аплату коштаў перасылкі.

Дзеля гэтага зварачаемся да Вас, паважаныя чытачы «Беларуса», зь вялікай просьбай: вазьмеце ўдзел у высыланьні дапамогі суродзічам на Беласточчыне, даючы пасільную грашовую ахвяру на высылку пачкаў.

Хрыстос вучыў дзяліцца апошнім, падзелімся-ж і мы часткаю таго, што маем. Нашая дапамога мае для тых, хто яе дастае, ня толькі матар'яльную вартасьць, але куды большую вартасьць маральную.

Дык чакаем з надзеяй і ўдзячнасьцяй —

**Ала Орса-Рамана**
**Вера Бартуль**
**Юля Андрусышына**

## СЬВ. † ПАМ. АНТАНІНА НЯДЗЬВІГА

Антаніна Нядзьвіга-Шылянская, з дому Сільвановіч, нар. у Полацку ў 1910 г., пам. у г. Брыджтоне, шт. Нью-Джэрзы, у 1987 годзе.

Мужу Івану Фёдаравічу выказваюць шчырыя спачуваньні сем'і Кіпеляў, Валюшкаў, Запруднікаў, Я. Каханоўская, А. Шукелайць.

## СПОВЕДЗЬ САВЕЦКАЙ ГАСПАДЫНІ

Газэта «Зьвязда» за 28 чэрвеня сёлета, пад загалоўкам «Чаму такія доўгія чэргі і хто павышае цэны?», зьмясьціла «споведзь гаспадыні, адрасаванproblem работнікам гандлю, быту і дзяржаўнага Камітэту БССР па цэнах». Вось на што жаліцца жыхарка беларускае сталіцы (можна ўявіць сабе, якія жальбы маюць жанчыны па абласных і раённых цэнтрах ды меншых мястэчках і вёсках БССР):

«Колькі абуральных слоў напісана пра доўгія чэргі, а яны ніяк не зьмяншаюцца!...

«Пятнаццаць чалавек да касы ў прадуктовым магазыне, дзесяць, — у хлебным, яшчэ пятнаццаць — у плодаагародніннем...

«Аладкі розныя гатаваць калісьці яшчэ маці навучыла. Схамянулася — няма дражджэй. Можна, вядома, на содзе, але і яе няма. У разрад дэфіцыту трапілі сёньня і іншыя дробязі...

«Шмат часу трацім і на пошукі яшчэ аднаго дэфіцыту — хатніх халатоў... І таму калі трапіць на вочы нешта больш-менш прыймальнае, хапаем бяз прымеркі і прыцэнкі...

«Няхай-бы прамысловасьць наша і пра формачкі для выпечкі паклапацілася, і пра латкі для заліўнога. Каструлькі маленькія ў хатняй гаспадарцы вельмі патрэбныя — і з ручкамі і з 'вушкамі', і літровыя, і яшчэ меншыя. А то завалілі нас 'валам' 10- ды 20-літровых ёмістасьцей. А мы бегаем з магазыну ў магазын — шукаем.

«Праблемы нашы на першы погляд дробязныя: бульба, морква, каструля, халат, дзіцячыя калготкі, ляк для валасоў. Але-ж менавіта з дробязей складаецца наш быт. А нявырашаныя бытавыя пытаньні псуюць настрой і здароўе».

Выслухаўшы гаспадыню, паслухайце цяпер ідэялягічнага камэдыянта:

«Мы ўжо вядзём ацэнку сваіх эканамічных посьпехаў паводля ўзроўню сусьветных стандартаў, што адзіна правільна з пункту гледжаньня нашай галоўнай задачы: перамагчы капіталізм, як завяшчаў У. І. Ленін». — Генадзь Лісічкін, кандыдат эканамічных навукаў. («Полымя», 1987, № 5, б. 136)

### ШТАТЫДНЯ 20 ГАДЗІНАЎ НА ЗАКУПЫ

Як падала газэта «Нью-Ёрк Таймс» (20.IX.87), апісваючы ў вялікім артыкуле менскі універмаг «Беларусь», сям'я мянчанаў з чатырох асобаў затрачвае штатыдня 20 гадзінаў на закупы ежы й вопраткі (бязумоўна, прастойваць у чэргах найбольш даводзіцца гаспадыні паза еенымі працоўна-заработкавымі гадзінамі). Падлік гэткі, піша «НЁТ», быў зроблены беларускімі сацыёлягамі два гады таму.

Як відаць з таго, што пішуць сёньня газэты БССР пра стан гандлю ў рэспубліцы, колькасьць затрачванага на чэргі часу не скарацілася.

### ДАРМОВЫ КАТАЛЁГ ВЫДАНЬНЯЎ

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку мае каталёг беларускіх эміграцыйных выданьняў, навуковых і бэлетрыстычных. Каталёг высылаецца задарма.

Набывайце й пашырайце беларускія публікацыі! Выкарыстоўвайце іх у якасьці падарункаў пры розных нагодах.

**Управа БІНІМ**

## *НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»*

**ЗША**

Збор на банкеце ў Гайленд-Парку 6 верасьня 1987 г.

| | |
|---|---|
| 1. А. О.-Рамана | ам.дал. 100 |
| 2. Я. Сажыч | 100 |
| 3. У. Набагез | 100 |
| 4. Я. Запруднік | 100 |
| 5. Архіеп. Мікалай | 50 |
| 6. В. і Г. Русак | 50 |
| 7. К. Калоша | 50 |
| 8. Б. Рагуля | 50 |
| 9. В. Станкевіч | 30 |
| 10. М. і К. Верабей | 30 |
| 11. Н. і Ю. Азарка | 25 |
| 12. С. Гутырчык | 25 |
| 13. В. Артон | 25 |
| 14. Б. Даніловіч | 20 |
| 15. П. Кажура | 20 |
| 16. Л. Шурак | 20 |
| 17. А. і Н. Сільвановіч | 20 |
| 18. Я. Каваленка | 20 |
| 19. А. Непеін | 20 |
| 20. А. Шукелойць | 20 |
| 21. Л. Норык | 20 |
| 22. А. Субота | 20 |
| 23. М. Абрамчык | 20 |
| 24. В. Машанскі | 10 |
| 25. Ананімна | 10 |
| 26. Л. Стагановіч | 10 |
| 27. Я. Літвіненка | 10 |
| 28. А. Дубяга | 10 |
| 29. А. Стрэчань | 10 |
| 30. А. Міцкевіч | 10 |
| 31. Э. Рыжы | 10 |
| 32. У. Харавец | 10 |
| 33. Я. Сапежынскі | 10 |
| 34. Я. Міско | 10 |
| 35. А. Васюлюк | 10 |
| 36. М. Сільвановіч | 10 |
| 37. А. Балконскі | 10 |
| 38. Н. Орса | 10 |
| 39. Ф. Бартуль | 10 |
| 40. Л. Тымэрман | 10 |
| 41. Л. Паплаўскі | 10 |
| 42. М. Януш | 5 |
| 43. А. Супрун | 5 |
| 44. В. Макац | 5 |
| 45. М. Каранеўскі | 5 |
| Разам | 1135 |

У канадзкай валюце:

| | |
|---|---|
| 1. М. Ганько | 60 |
| 2. Л. Паплаўскі | 20 |
| 3. А. Шаршуновіч | 10 |
| 4. С. Прахарук | 10 |
| 5. А. Нікановіч | 5 |
| Разам | 105 |

Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:

| | |
|---|---|
| 1. М. Рагуля | ам.дал. 100 |
| 2. З. і В. Кіпель | 100 |
| 3. Р. Станкевіч | 50 |
| 4. В. Пунтус | 40 |
| 5. М. М. К. | 30 |
| 6. П. Ракуць | 20 |
| 7. Грамыка | 20 |
| 8. Я. Баран | кан.дал. 40 |
| 9. Б. Косараў | 18 |
| 10. А. Ражанец | анг.ф. 10 |
| Разам | ам.дал. 378<br>кан.дал. 40<br>анг.ф. 10 |

Замест кветак на магілу в. пам. Антаніны Нядзьвіга сям'я Кіпеляў ахвяруе на выдавецкі фонд «Беларуса» ам.дал. 100

**АЎСТРАЛІЯ**

В. Акавіты (з продажу газэты) ам.дал. 63.41